


Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№ 9 (верасень), 2013


# Мяжа

HAROV PRIZE FOR FREEDOM OF THOU

1997 Salima Ghezali
2008 Hu Jia
2005 Ladies in White, Hauwa Ibrahim and Reporters Without Borders
1990 Aung San Suu Kyi
2007 Salih Mahmoud Osman
2009 Memorial
1999 José Alejandro 'Xanana' Gusmão
2006 Aliaksandr Milinkevich
1993 Oslobodjenje
2001 Izzat Ghazzawi, Nurit Peled-Elhanan and Dom Zacarias Kamwenho
1996 Wei Jingsheng
1991 Adem Demaçi
2002 Oswaldo José Payá Sardiñas
2004 Zhanna Litvina, President of the Belarus Assoc
1992 Las Madres de la Plaza de Mayo
1995 Leyla Zana
2003 Kofi Annan, UN Secretary General, and all UN staff
1989 Alexander Dubček
1988 Nelson Rolihlahla M and Anatoli Marcher
Website screen shot

## Лобаў, Бяляцкі і Статкевіч — кандыдаты на прэмію Сахарава

(Старонка 13)

# ЗЬМЕСТ

Старонка 3 Суд над актывістам апазіцыі Каўшом стаў закрытым

Старонка 3 **На волю выйшаў палітвязень Аляксандр Францкевіч**

Старонка 4 За кратамі застаюцца 9 палітвязняў

Старонка 5 **Брэсцкі рабочы адсудзіў у прадпрыемства за траўму 35 мільёнаў рублёў**

Старонка 6 Брэст: на гарвыканкам пададзена скарга ў суд

Старонка 7 **Жонка Алеся Бяляцкага: Званок таксама як момант сустрэчы**

Старонка 7 Адам Міхнік просіць прабачэння за Алеся Бяляцкага

Старонка 8 **Стаў даступны на рускай мове тэкст рашэння па справе брэстчанкі Жаны Коўш**

Старонка 10 Брэст: жыхары вуліцы Валгаградскай накіравалі скаргу на адказ з гарвыканкама

Старонка 11 **Судовая шызафрэнія**

Старонка 13 Брэст: жыхары пяць гадоў дамагаліся ад уладаў рамонту сваёй вуліцы

Старонка 13 **Лобаў, Бяляцкі і Статкевіч — кандыдаты на прэмію Сахарава**

Старонка 16 Валянцін Лазарэнкаў: Кіраўніка "Граніту" варта ўнесці ў "чорныя спісы"

# Суд над актывістам апазіцыі Каўшом стаў закрытым

За тры дні прайшлі тры судовыя паседжанні. Апошняе з іх адбывалася ў закрытым рэжыме.

4 і 5 верасня адкрыта слухалі сведкаў следчых дзеянняў з індусамі, затрыманымі на мяжы. Быў выкліканы перакладчык з англійскай мовы, які павінен быў спраўдзіць дакладнасць першапачатковага перакладу.

Абарона адзначыла, што перакладчыкі з моваў Індыі, карэнныя індыйцы, раней працавалі ў Брэсце афіцыянтамі рэстарана “Індыя” да яго закрыцця.

Маці абвінавачанага Генрыка Станіславаўна кажа:

Генрыка Коўш: "Яны ў Індыі ніякіх школ не заканчвалі, ніякіх дакументаў аб адукацыі няма. А тут хоць бы курсы якія для смеху скончылі… Тут многа чаго нарабілі. Газеты панапісвалі, што ў Віталя Каўша белы Мерседэс, што ў яго дом у Цюхінічах… Дык няхай мне дадуць дакументы, якія спраўджваюць, што ў яго белы Мерседэс, што ў яго дом у Цюхінічах… Я паверу".

Дарэчы, жонка Віталя Каўша падала заяву на развод. У прыватнай размове жанчына патлумачыла, што знаходжанне мужа ў турме не дазваляе ёй прыватызаваць кватэру. Тэрмін прыватызацыі заканчваецца пасля Новага года.

Нагадаем, Віталя Каўша асудзілі на 4 гады турмы з канфіскацыяй маёмасці. Яго абвінавацілі ў арганізацыі незаконнага пераходу васьмі індыйцаў па канаце над беларуска-польскай мяжой. Брэсцкі абласны суд скасаваў прысуд, цяпер справу пераглядае новы склад суда.

*http://euroradio.fm/sud-nad-aktyvistam-apazicyi-kaushom-stau-zakrytym*

# На волю выйшаў палітвязень Аляксандр Францкевіч

Пасля вызвалення за ім будзе ўсталяваны шасцімесячны міліцэйскі нагляд.

Нагадаем, што Аляксандр Францкевіч быў асуджаны да трох

гадоў пазбаўлення волі па так званай “справе анархістаў”. Ён адбываў пакаранне ў Івацэвіцкай калоніі “Воўчыя норы”.

Аляксандр нарадзіўся 6 траўня 1990 года ў Наваполацку. Пасля сканчэння ліцэю працаваў праграмістам. Пазней пераехаў жыць і працаваць у Мінск. Далучыўся да руху анархістаў, піша "Наша ніва".

На мінулым тыдні на волю выйшаў палітвязень Зміцер Дашкевіч, лідар незарэгістраванага ў Беларусі "Маладога фронту". За кратамі ён знаходзіўся ад снежня 2010 года.

***

У інтэрв'ю Радыё Свабода Францкевіч кажа, што ўвесь час адчуваў за кратамі ціск, але пад такім жа ціскам былі і іншыя зняволеныя. "Калі чалавек моцны, не важна па якіх прычынах ён сядзіць, то ён вытрымае", — кажа Аляксандр. "Мае погляды не змяніліся, а толькі ўмацаваліся", — дадае ён.

Нагадаем, Аляксандр Францкевіч — праграміст. У яго планах аднавіцца на ранейшай працы. “Да кампутара не дакранаўся тры гады, але калі бачыў яго ў турэмшчыкаў, ажно “рукі часаліся”, — прызнаецца ён.

Пад наглядам Францкевіч будзе жыць у Наваполацку, але спадзяецца перавесціся ў Мінск.

*euroradio.fm/palitvyazen-alyaksandr-franckevich-vyydze-na-volyu-3-verasnya*

## За кратамі застаюцца 9 палітвязняў

Раніцай у аўторак на волю выйшаў Аляксандр Францкевіч, асуджаны па так званай “справе анархістаў”.

На мінулым тыдні вызвалілі Змітра Дашкевіча.

За кратамі застаюцца палітвязні Эдуард Лобаў, Мікалай Статкевіч, Павел Севярынец, Алесь Бяляцкі, Мікалай Дзядок, Ігар Аліневіч, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка, Мікалай Аўтуховіч. Севярынец мусіць выйсці на волю наступным: 19 кастрычніка 2013 года, нагадвае "Наша ніва".

Здымак з архіву Еўрарадыё. Партрэты палітвязняў падчас акцыі

апазіцыі 2013 года.




euroradio.fm/za-kratami-zastayucca-9-palitvyaznyau

## Брэсцкі рабочы адсудзіў у прадпрыемства за траўму 35 мільёнаў рублёў

У гэтым яму дапамог незалежны прафсаюз.

Пра рашэнне суда на карысць былога працаўніка Галаўнога спецыялізаванага канструктарскага бюро Уладзіміра Саўлука паведаміла старшыня Брэсцкай рэгіянальнай арганізацыі прафсаюза Работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці Зінаіда Міхнюк:

"Каля года цягнуліся цяжбы. Суд Ленінскага раёна горада Брэста прысудзіў, каб ГСКБ выплаціла Уладзіміру Саўлуку, сябру нашага прафсаюза, 35 мільёнаў рублёў маральнага адшкадавання. За гэтым стаіць складаная праца прававога інспектара па Брэсцкай вобласці Уладзіміра Малея".

Першы раз суд адмовіў Саўлуку ў іску. Абласны суд накіраваў справу на новы разгляд. Былі прызначаныя судовыя экспертызы, якія паказалі на вытворчы характар траўмы, сказала Зінаіда Міхнюк.

Нагадаем, рабочаму ў 2007 годзе станком раздушыла правую

ступню. Яго пераканалі сказаць, што нагу траўмаваў дома падчас рамонту аўтамабіля. Пасля таго, як трацiну ступнi ампутавалi, Уладзімір Саўлук мусiў перайсці на больш лёгкую працу. Яму стала не хапаць грошай на лекi, і ён звярнуўся па дапамогу ў прафсаюз РЭП. Пазоў ён падаваў на 70 мiльёнаў рублёў, але суд падтрымаў толькi палову гэтай сумы.

*euroradio.fm/brescki-rabochy-adsudziu-u-pradpryemstva-za-traumu-35-milyonau-rublyou*

## Брэст: на гарвыканкам пададзена скарга ў суд

Мясцовы каардынатар Руху “За Свабоду!” Дзяніс Турчаняк спрабуе дамагчыся прызнання незаконнымі дзеянні брэсцкіх уладаў, якія тычацца будаўніцтва на тэрыторыі, што ахоўваецца дзяржавай.

У позве, пададзенай у суд Ленінскага раёна Брэста, адзначаецца, што гарвыканкам парушыў заканадаўства, калі дазволіў будаваць аўтамабільны мост праз абводны канал Кобрынскага ўмацавання Брэсцкай крэпасці, якая з’яўляецца прыродаахоўным аб’ектам. Размова ідзе пра канал, што ствараецца зараз зусім побач з галоўным уваходам у мемарыяльны комплекс.

Раней дзеянні гарадскіх уладаў Дзяніс Турчаняк і старшыня Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч спрабавалі абскардзіць у Брэсцкім аблвыканкаме. Аднак скарга не была задаволеная, таму і было вырашана звярнуцца ў суд.

У позве адзначаецца, што ўлады парушылі пастанову беларускага ўрада аб парадку правядзення грамадскіх абмеркаванняў у галіне будаўніцтва, архітэктурнай і горадабудаўнічай дзейнасці, бо ніякага абмеркавання з удзелам грамадскасці не было. Больш таго, без гэтага абмеркавання зрабілі дзяржаўную экспертызу праекта будаўніцтва, што таксама з’яўляецца парушэннем заканадаўства. Такім чынам, жыхары Брэста былі пазбаўленыя магчымасці выказаць сваё стаўленне да гэтага праекту.

*spring96.org/be/news/65558*

# Жонка Алеся Бяляцкага: Званок таксама як момант сустрэчы

Праваабаронца Алесь Бяляцкі раз на тыдзень дасылае дамоў лісты і зрэдку тэлефануе.

Праваабаронца Алесь Бяляцкі, якога трымаюць ў Бабруйскай калёніі, працягвае ліставаньне з домам і сябрамі, а часам мае магчымасьць патэлефанаваць, паведаміла жонка палітвязьня Натальля Пінчук.

«Раз на тыдзень, бывае раз на два тыдні ад яго прыходзяць лісты. Калі нейкі час я не атрымліваю, то пытаюся ў сяброў ды знаёмых і даведваюся, што ім таксама піша. Таму бачу, што ліставаньне ідзе, зь ім нібыта ўсё нармальна, больш-меньш. Часам бывае і звоніць. Настрой ў званках заўсёды добры, бадзёры. Вось як і ў апошнім спатканьні быў бадзёры, гэтак і падчас тэлефонных размоў. Званок — гэта заўсёды як момант сустрэчы і голас таму радасны. А так у яго тое ж самае — праца, праца. Рэжым ў яго вызначаны на ўвесь тэрмін і не мяняецца, хіба толькі з пагаршэньнем і вяртаньнем да вызначанага парадку».

Паводле Натальлі Пінчук, яе муж можа спагнаць ў турэмнай краме толькі 100 тысяч рублёў штомесяц. «Гэта вельмі малыя грошы і безумоўна „атаваркі“ яму не хапае», — мяркуе жонка Алеся Бяляцкага.

Кіраўнік праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі за ўтойваньне прыбыткаў з-за мяжы асуджаны на 4,5 года зьняволеньня. На судзе Бяляцкі заяўляў, што ўсе грошы, якія ён прывозіў з-за мяжы, ішлі на дапамогу ахвярам рэжыму. Апазыцыя і праваабаронцы ў Беларусі і сьвеце таксама лічаць, што Алеся Бяляцкага пакаралі за праваабарончую дзейнасьць.

*http://www.svaboda.org/content/article/25098735.html#hash=audio_menu*

# Адам Міхнік просіць прабачэння за Алеся Бяляцкага

“Прашу прабачэння за Алеся Бяляцкага”, - такія словы прагучалі з вуснаў апазіцыйнага дзеяча часоў Польскай Народнай

Рэспубліку, галоўнага рэдактара "Gazety Wyborczej" Адама Міхніка. Ён прыгадаў тое, што менавіта Польшча спрычынілася да зняволення беларускага праваабаронцы:

- *Хачу папрасіць прабачэння ад імя маёй дзяржавы за гэты абсалютна ганебны скандал, звязаны са зняволеннем Алеся Бяляцкага (апладысменты). Я сам быў сведкам таго, як міністр замежных справаў Польшчы прасіў прабачэння за гэта, калі ўручаў узнагароду жонцы Алеся Бяляцкага. Такім чынам, яны выдатна разумеюць, што "стрэлілі сабе ў калена". І Алесь, які сядзіць за кратамі, напэўна мае тую заслугу, што ўсвядоміў польскія эліты.*

"Кожны, хто кажа пра суверэнную Беларусь, для Масквы з'яўляецца нацыяналістам", - адзначыў Адам Міхнік.

Алесь Бяляцкі адбывае 4 гады і 6 месяцаў зняволення па звінавачанні ва ўтойванні прыбыткаў у асабліва буйным памеры. Інфармацыю пра замежныя рахункі Бяляцкага беларускім органам перадалі Польшча і Літва. Праваабаронца не прызнаў сваёй віны. Усе грошы з названых рахункаў прызначаліся на праваабарончую дзейнасць у Беларусі.

*http://www.racyja.com/index.php?id=104&zoom=17496#.UlWaAedb_xh*

## Стаў даступны на рускай мове тэкст рашэння па справе брэстчанкі Жаны Коўш

На сайце Упраўлення Вярхоўнага камісара  па правах чалавека апублікаваны тэкт рашэння па справе брэстчанкі Жаны Коўш на рускай мове. Дадзеная справа была разгледжана ў сакавіку 2013 г. на 107 сесіі Камітэта па правах чалавека ААН.

Жана Коўш ставіла пытанне аб недастаўцы яе да суддзі ў тэрміновым парадку. Яна  затрымлівалася супрацоўнікамі міліцыі двойчы: у 2005 г. і ў 2006 г. Двойчы змяшчалася ў ізалятар. Першы раз не была дастаўлена да суддзі двое сутак, другі раз - трое.

- Адносна Жаны Коўш быў парушаны пунк 3, арт 9 Міжнароднага пакта  аб грамадзянскіх і палітычных правах, -кажа

праваабаронца Раман Кісляк, да якога жанчына звярнулася за дапамогай. Крымінальныя справы, якія былі ўзбуджаны ў адносінах да Коўш, былі спынены.

Па словах Кісляка, справы былі яўна сфабрыкаванымі.

Сама Жана лічыць гэта пераследам за яе грамадскую актыўнасць і палітычныя погляды. Яна сябра АГП, Руху “За свабоду” і ў 2006 г. затрымлівалася ў перыяд прэзідэнтскай кампаніі. Падчас трэцяга затрымання адбыўся вялікі розгалас. Да ІЧУ пад’ехала шмат грамадскіях актывістаў і праваабаронцаў, і Жану выпусцілі праз пару гадзін.

Першыя 2 затрыманні Жана абскарджвала ў раённай, абласной і Генеральнай пракуратуры. Але пракуроры розных узроўняў не ўбачылі правапарушэнняў у дзеяннях міліцыі. Таму прыйшлося звярнуцца ў Камітэт па правах чалавека ААН.

Справа ў тым, што беларускае заканадаўства не прадугледжвае аўтаматычную дастаўку да суддзі, які павінен вырашыць, затрымаць чалавека ці вызваліць. Але ёсць міжнародныя абавязкі. Больш таго, гэтае пытанне вырашаецца следчым і санкцыянуецца пракуратурай. Таму падобныя парушэнні вельмі шматлікія ў Беларусі. Але ўлады не хочуць заўважаць дадзенае парушэнне і выпраўляць сітуацыю, адзначае праваабаронца Раман Кісляк.

У адносінах да Жаны Коўш былі і іншыя парушэнні. Але ўвага была сканцэнтравана менавіта на тэрміновым недастаўленні да суддзі, бо гэта тычыцца многіх.

Такое дастаўленне павінна быць на працягу 48 гадзін. У Беларусі закон прадугледжвае 72 гадзіны, а таксама 10 сутак у адносінах да асобаў, якія падазраюцца ў здзяйсненні цяжкіх злачынстваў.

Праваабаронца Кісляк лічыць, што ў Беларусі патрэбна даставіць на працягу 48 гадзін, як прынята ў рамках Савета Еўропы і ў краінах-суседках - Расіі, Украіне, Літве, Польшчы і інш. За выключэннем выпадкаў, калі для гэта ёсць падставы.

Камітэт прыйшоў да высновы, што Беларусь парушыла правы

грамадзянкі Жаны Коўш згодна п.3 арт. 9 Пакта. Па рэкамендацыі Камітэта, Беларусь павінна забяспечыць Коўш прававую дапамогу, вярнуць панесеныя ёю матэрыяльныя страты, а таксама маральную кампенсацыю. Таксама дзяржава не павінна дапускаць такія парушэнні ў будучым. Дадзенае рашэнне павінна быць апублікавана на беларускай і рускай мовах.

*http://spring96.org/be/news/65684*

## Брэст: жыхары вуліцы Валгаградскай накіравалі скаргу на адказ з гарвыканкама

Аўтары скаргі заўважаюць, што мясцовыя ўлады ў сваім лісце праігнаравалі запыт жыхароў аб зробленых захадах наконт рамонту тратуараў і дваровай тэрыторыі, што знаходзіцца ў незадвальняючым стане.

У чэрвені 2013 года жыхары дома №28 па вуліцы Валгаградскай у Брэсце накіравалі калектыўны зварот у гарвыканкам з нагоды аварыйнага стану пад’язных дарог, разбураных тратуараў у двары, адсутнасці дзіцячай пляцоўкі. Акрамя таго, жыхары гэтага дома звярталі ўвагу на тое, што ў адпаведнасці з дамовамі найму жылых памяшканняў і дамовамі аб аказанні жыллёва-камунальных паслуг яны штомесяц робяць плацяжы, аднак сапраўднага тэхнічнага абслугоўвання няма. Пры гэтым невядома, куды накіроўваюцца сродкі, што пералічваюцца на адаведны рахунак жыллёва-камунальнай службы.

У адказе гарвыканкама за подпісам намесніка старшыні Мікалая Бясько паведамлялася, што дваровая тэрыторыя каля згаданага дома знаходзіцца ў належным стане і што дзіцячая пляцоўка прыведзена ў парадак, а далей нагадваецца, што “ў адпаведнасці з Правіламі карыстання жылымі памяшканнямі жыхары абавязаны трымаць у чысціні і парадку жылыя памяшканні, не пакідаць смецце ў кабінах ліфта і на дваровай тэрыторыі”.

Жыхары дома абураны такім адказам, бо яны сцвярджаюць, што і без гэтага напаміну выконваюць свае абавязкі. У той жа час у адказе гарадскіх уладаў нічога не гаворыцца аб прынятых захадах

накont рамонту тратуараў і дваровых пад'язных дарог, якія знаходзяцца ў нездавальняючым стане. “Мы лічым, што атрыманы адказ з гарвыканкама з'яўляецца фармальнай адпіскай, бо да цяперашняга часу пад'язныя дваровыя дарогі і тратуары знаходзяцца ў разбураным стане і ніякіх мер па ліквідацыі гэтых разбурэнняў службамі ЖКГ не прымаюцца”, - кажа Тамара Прылоўская, якая з’явілася ініцыятарам скаргі наконт дзеянняў гарвыканкама. Аўтары скаргі лічаць, што ўлады парушылі заканадаўства аб зваротах грамадзян і не прынялі захады для поўнага, аб'ектыўнага і ўсебаковага разгляду ранейшага калектыўнага звароту.

*http://spring96.org/be/news/65834*

## Судовая шызафрэнія

Суд Ленінскага раёна Брэста падтрымаў звальненне прафсаюзнага актывіста, хаця прызнаў, што з прадпрыемства «Граніт» у Мікашэвічах ён быў звольнены з парушэннем закона.

Як паведамляе карэспандэнт charter97.org, спатрэбілася правесці пяць судовых пасяджэнняў, каб было вынесенае рашэнне па пазове памочніка экскаватаршчыка РУВП «Граніт» Леаніда Дубаносава да РУВП «Граніт». Леанід апынуўся апошнім актывістам Беларускага Незалежнага прафсаюза, ад якога пазбавілася кіраўніцтва мікашэвіцкага прадпрыемства, звольніўшы адразу ж пасля выхаду з адпачынку. Прычынай звальнення сталі нібыта дапушчаныя ім два парушэнні на працягу некалькіх дзён. Прычым у першым выпадку Дубаносаў знаходзіўся на бальнічным, а ў іншым - у чарговым адпачынку. Дарэчы, прадстаўнікі адказчыка давалі падчас судовых слуханняў вельмі блытаныя паказанні на конт таго, ці сапраўды Дубаносаў парушыў тэхніку бяспекі.

У выніку старшыня Лунінецкага раённага суда Міхаіл Дзянісавіч вымушаны быў прызнаць, што актывіста незалежнага прафсаюза звольнілі незаконна і ў адрас кіраўніцтва «Граніту» адпраўленае прыватнае вызначэнне. Акрамя таго, суд абавязаў адміністрацыю дадзенага прадпрыемства выплаціць Леаніду

Дубаносаву матэрыяльную дапамогу да адпачынку ў памеры 1 мільёна рублёў, як гэта прадугледжана калектыўнай дамовай (хоць прадстаўнікі «Граніту» спрабавалі даказаць, што сам Дубаносаў з заявай на дапамогу не звяртаўся). Паводле судовага вердыкта, Леанід таксама мае права патрабаваць ад прадпрыемства кампенсацыі за нанесеную маральную шкоду.

Цікава, што, прызнаўшы факт незаконнага звальнення прафсаюзнага актывіста, суддзя адначасова заявіў: выяўленыя пры гэтым парушэнні Працоўнага кодэкса не даюць падставы Дубаносаву аднавіцца на працы. Таксама яму было адмоўлена ў задавальненні астатніх пазоўных патрабаванняў, а менавіта - ліквідацыі дыскрымінацыі па прафсаюзнай прыналежнасці (на чым асабліва настойваў Леанід) і спагнання заработнай платы за вымушаны прагул. У ходзе судовых слуханняў Дубаносаў прама заявіў, што праблемы ў яго пачаліся адразу пасля таго, як ён уступіў у незалежны прафсаюз. Паводле яго слоў, прадстаўнікі адміністрацыі «Граніту» неаднаразова папярэджвалі, што ў выпадку працягу прафсаюзнай дзейнасці памочніка экскаватаршчыка звольняць. Пасля адмовы ад выхаду з шэрагаў прафсаюза і пачаліся рэгулярныя праверкі, якія закліканыя былі знайсці парушэнні ў працы Леаніда Дубаносава.

Пасля абвяшчэння рашэння Лунінецкага суда Дубаносаў і прадстаўнікі Беларускага Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў, якія дапамагалі яму адстойваць сваю пазіцыю, заявілі пра намер абскардзіць вынесены вердыкт у вышэйстаячых інстанцыях.

Нагадаем, што ў канцы 2011 года 600 працаўнікоў «Граніту» заявілі пра выхад з дзеючай на прадпрыемстве афіцыйнай прафсаюзнай арганізацыі і заявілі пра намер стварыць альтэрнатыўную першасную структуру БНП, якая рэальна змагалася б за іх правы. Аднак зарэгістраваць незалежны прафсаюз не ўдалося, бо для гэтага яму трэба атрымаць юрдычны адрас, а адміністрацыя прадпрыемства адмаўляе ў прадастаўленні памяшкання і аказвала ціск на прыхільнікаў новай арганізацыі.

З моманту стварэння гэтай прафсаюзнай суполкі з прадпрыемства былі звольненыя самыя актыўныя сябры незалежнага прафсаюза - Алег Стахаевіч, Мікалай Карышаў і яго жонка Маргарыта, Генадзь Паўлоўскі, Віталь Пашэчка, Людміла і Анатоль Літвінко.

*http://charter97.org/be/news/2013/9/12/75545/*

## Брэст: жыхары пяць гадоў дамагаліся ад уладаў рамонту сваёй вуліцы

Актыўнае змаганне за добраўпарадкаванне тэрыторыі вуліцы Тарфяной на ўскрайку Брэста дало плён пасля кампаніі па збору подпісаў, накіраваных у гарвыканкам.

Як распавяла адна з ініцыятараў збору подпісаў Ірына Лаўрыновіч, на працягу больш чым пяці гадоў асобныя жыхары вялі перапіску з гарадскімі уладамі, каб прывесці ў належны стан невялікую вуліцу ў мікрараёне Бярозаўка. Аднак чыноўнікі прыводзілі самыя разнастайныя аргументы, у выніку чаго рашэнне пра рэканструкцыю вуліцы зноў і зноў скасоўвалася.

Год таму жыхары Бярозаўкі распачалі масштабную кампанію па збору подпісаў за добраўпарадкаванне вуліцы Тарфяной, паабяцаўшы давесці справу да суда, калі ўлады праігнаруюць патрабаванні людзей. У выніку ў мікрараёне было зладжана грамадскае абмеркаванне найбольш балючых праблем з удзелам прадстаўнікоў уладаў і ўрэшце распачаліся працы, якія тычыліся пракладкі каналізацыі, усталявання сцяжынак і частковага заасфальтавання вуліцы. Ірына Лаўрыновіч спадзяецца, што рэканструкцыю паспеюць скончыць да пачатку халадоў, і адзначае карысць супольных дзеянняў грамадскасці ў вырашэнні лакальных праблем.

*http://spring96.org/be/news/65756*

## Лобаў, Бяляцкі і Статкевіч — кандыдаты на прэмію Сахарава

40 дэпутатаў Эўрапарлямэнту падпісаліся пад тым, каб

вылучыць на міжнародную прэмію імя Андрэя Сахарава беларускіх палітвязьняў Эдуарда Лобава, Алеся Бяляцкага і Міколу Стакевіча.

Ініцыятары вылучэньня: намесьнік кіраўніка ЭП **Яцэк Пратасевіч**, эўрадэпутаты **Марэк Мігальскі** і **Філіп Качмарэк**.

Пра гэта паведамляюць польскія мэдыі.

Зьняволенага кіраўніка праваабарончага цэнтру «Вясна» Аляся Бяляцкага вылучалі на прэмію Сахарава летась. Ён быў другі паводле колькасьці галасоў. Аднак узнагароду тады атрымалі іранцы — адвакатка Насрын Сатудэх і рэжысэр Джафар Панахі, якія ў сваёй краіне цяпер за кратамі.

## Даведка:

"Прэмія імя савецкага навукоўца і дысыдэнта Андрэя Сахарава была заснаваная ў сьнежні 1985 году Эўрапейскім Парлямэнтам. Яна прысуджаецца асобам ці арганізацыям, якія абараняюць правы і свабоды людзей.

У 2004 годзе прэмію атрымала Беларуская асацыяцыя журналістаў. У 2006-м — кандыдат на выбарах прэзыдэнта 2006-га, цяперашні кіраўнік руху «За свабоду» Аляксандар Мілінкевіч."

---

## Справа Бяляцкага



Алесь Бяляцкі Кіраўнік праваабарончага цэнтру «Вясна»

Алесь Бяляцкі асуджаны на 4,5 года турмы ў лістападзе летась. Яго прызналі вінаватым у нясплаце падаткаў. Праваабаронца сваёй віны не прызнаў і заявіў, што ўсе грошы, атрыманыя на ягоныя рахункі, ішлі на праваабарончую дзейнасьць.

Падставай для крымінальнага перасьледу Бяляцкага стала інфармацыя пра банкаўскія рахункі, якую перадалі афіцыйнаму Менску Літва і Польшча.

Краіны Эўразьвязу, ЗША і міжнародныя праваабарончыя арганізацыі лічаць Бяляцкага палітвязьнем, а прысуд яму — палітычна матываваным. Яны патрабуюць ад уладаў Беларусі вызваліць праваабаронцу.

## Мікола Статкевіч



Мікалай Статкевіч Кандыдат на прэзыдэнцкіх выбарах 2010 г.

Затрыманы 19 сьнежня 2010 г. пасьля акцыі пратэсту супраць фальшаваньня вынікаў выбараў і зьмешчаны ў СІЗА КДБ.

Абвінавачаны ў арганізацыі і ўдзеле ў масавых беспарадках.

26 траўня 2011 годзу судзьдзя Ленінскага суду Менску Людміла Грачова асудзіла Статкевіча на шэсьць гадоў пазбаўленьня волі ў калёніі ўзмоцненага рэжыму.

Праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» прызнала яго вязьнем сумленьня.

## Эдуард Лобаў



Эдуард Лобаў Затрыманы 18 сьнежня 2010 году разам

зь лідэрам Маладога Фронту Зьмітром Дашкевічам, абвінавачаныя ў хуліганстве, нібыта яны зьбілі мінакоў.

Сваёй віны не прызналі і заявілі, што гэта была правакацыя спэцслужбаў напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў.

24 сакавіка 2011 г. судзьдзя Маскоўскага суду Менску Алена Шылько асудзіла Эдуарда Лобава паводле артыкулу «асабліва злоснае хуліганства» на 4 гады калёніі ўзмоцненага рэжыму.

Праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» прызнала яго вязьнем сумленьня.

Адбывае пакараньне ў калёніі № 22 «Воўчыя норы» ў Івацэвіцкім раёне.

*http://www.svaboda.org/content/article/25104724.html*

## Валянцін Лазарэнкаў: Кіраўніка "Граніту" варта ўнесці ў "чорныя спісы"

За рэпрэсіі і звальненні актывістаў “гранітаўскай” суполкі незалежнага прафсаюзу генеральнага дырэктара прадпрыемства Эдуарда Гаўрылковіча варта ўнесці ў спіс неўязных у краіны Еўразвязу, - так мяркуе старшыня Берасцейскай абласной арганізацыі Свабоднага прафсаюзу Беларускага Валянцін Лазарэнкаў.

- Сёння няма каму паўстаць, акрамя тых прафсаюзаў, якія лічацца незалежнымі, свабоднымі. Мы адзіныя, хто можа пратэставаць, у рамках заканадаўства, але на сённяшні дзень няма незалежнага суду, незалежнай пракуратуры. Таму кіраўнік “Граніту” таксама можа трапіць у “чорныя спісы” Еўразвязу, бо гэта не адзіны Дубаносаў, а гэта ўжо, напэўна, дзясяты чалавек, які звольнены за прыналежнасць да незалежных прафсаюзаў.

Кіраўніцтва прадпрыемства “Граніт” цягам года звольніла дзясятак самых актыўных сябраў Беларускага незалежнага прафсаюзу. На шэраг рабочых аказалі ціск, каб яны забралі свае заявы пра выхад з Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі.

*http://www.racyja.com/index.php?id=104&zoom=17598#.UlWaDedb_xh*

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»